


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

TV плюс

5 студзеня 2001 года
№ 1 (298)
Цана ў розніцу 105 рублёў

## Навіны рэгіёна




### Праведнік Свету Ян Сялевіч

МЯДЗЕЛ. Яшчэ адзін ураджэнец Мядзельшчыны атрымаў (пасмяротна) званне Праведніка Свету. У гады Другой сусветнай вайны ксёндз Ян Сялевіч, які на той час служыў у Варнянах, дапамагаў яўрэям выратавацца.

Нарадзіўся ксёндз на хутары ля Свіра; на могілках у гэтым жа мястэчку ён і пахаваны. Сваякоў яго ў жывых ўжо няма, таму медаль і дыплом на цырымоніі ў амбасадзе Ізраіля прымала старшыня Свірскага Савета **Яўгенія Вайгяніца**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Электраэнергія ў зоне

СМАРГОНЬ. Пасля пераходу на пазонны ўлік электраэнергіі завод аптычнага станкабудавання атрымаў важкую эканомію. Калі з 8 да 12 гадзін завадчане плацяць з каэфіцыентам 3, то з 12 да 23 і ў святы – 1, а ўначы плата зніжаецца яшчэ напалову. Даводзіцца, праўда, працаваць у суботу, а адпачываць у панядзелак.

На прадпрыемстве ўкараняецца сістэма лакальнага абагравання паветра. Падрыхтаваная праектная дакументацыя на абаграванне памяшканняў з дапамогай газавай прамянёвай энергіі ў інфра–чырвоным спектры.

**Павел МАКЛЮК.**

### Радавод Фердынанда Рушчыца

ВАЛОЖЫН. У Мінскім абласным конкурсе гісторыі славутых радаводаў Беларусі брала ўдзел лагапед дзіцячага садка №3 райцэнтра **Марына Амілаўская**.

Яна доўгі час працавала над стварэннем радавода знакамітага ўраджэнца Валожыншчыны мастака Фердынанда Рушчыца. Узнагародай ёй стала першае месца і фотаапарат.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Упарадкаваныя яўрэйскія могілкі

ВАЛОЖЫН. Належны выгляд набылі старадаўнія яўрэйскія могілкі ў Ракаве. Грошы на рамонт сабралі іўдзейскаму рэлігійнаму аб'яднанню ў Беларусі выхадцы з гэтых мясцінаў, што жывуць цяпер у Ізраілі.

Адноўленая мураваная сценка могілак, дзе гэта немагчыма было зрабіць – агароджу ўмацавалі металічнымі стойкамі. Нарэшце, прыстойны, з шасціканцовай зоркай, выгляд набыла брама. Тэрыторыю прывялі ў парадак вучні мясцовай школы, што месціцца непадалёк. Адміністрацыя ўстановы праводзіць экскурсіі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**



## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 6 студзеня**

**Мінск**
-1 – -7°C (уначы)
0 – 2°C (удзень)



**Вільня**
0°C (уначы)
2°C (удзень)



**Нядзеля, 7 студзеня**

**Мінск**
-1 – -4°C (уначы)
2 – 6°C (удзень)



**Вільня**
0°C (уначы)
5°C (удзень)





Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Цёпла Аляксандры на руках у мамы. Дзяўчынка была першая, хто ўключыў лічыльнік новага тысячагоддзя ў вілейскім радзільным доме.**

# Добры дзень, людзі!

**"Малькевіч, дзяўчынка. 1.01.01. Вага 3.320, рост 53".**

Гэта тэкст звычайнай біркі немаўляці – **Аляксандры Малькевіч**, – чалавека, які адкрыў лік новым зямлянам трэцяга тысячагоддзя на Вілейшчыне.

Алесю чакалі, чакалі менавіта дзяўчынку, і яна дала знаць аб сабе ў 9.15 навагодняй раніцай. Сітуацыя, як кажуць урачы **Таццяна Качан** і **Людміла Майніч**, была штатная. Гінеколаг **Алена Міланайць** была ў навагоднюю ноч дзяжурная, перадавала змену ў наступнае тысячагоддзе **Людміле Раманоўскай**, з якой і прынялі роды. Вось так у віляйчанкі Алены Малькевіч з'явіўся першынец.

У апошні год мінулага тысячагоддзя ў старых сценах вілейскага радзільнага дома пабачылі свет 571 немаўля. Кажучы мовай статыстыкі, на 34 больш, чым у год папярэдні. Вілейскія урачы ганарацца тым, што ўжо больш за тры гады тут няма выпадкаў смерці нованароджаных.

Пакуль Алена і яе дачка атрымалі віншаванні толькі ад самых блізкіх, урачоў ды журналістаў. Магчыма, факт першага з'яўлення ў новым тысячагоддзі новага грамадзяніна заўважаць і мясцовыя ўлады. Усё ж, чалавек прыйшоў: Добры дзень, людзі!

**Мікола ГАЙДУК.**

## Дзень выхаду – пятніца

Добры дзень, дарагія нашы чытачы: добразычліўцы і сябры, радыя сустрэчы і ўсерджаныя, усе, каму неабыякавае тое, пра што гаворыцца з нашых старонак. Разам з вамі мы ўступілі ў новы год, новыя стагоддзе і тысячагоддзе! Так, дваццаты век скончыўся, можна падводзіць вынікі, можна планаваць наступнае жыццё.

Мы радыя, што наша праца не застаецца дарэмнай, што слова, якое гучыць у газеце, цікавіць жыхароў рэгіёна ад Ашмянаў да Мядзела, ад Свіра да Івянца. За апошні год вырас тыраж, памяняўся знешні выгляд выдання, прыйшлі новыя аўтары. Засталася, і мы гэта нязменна падкрэсліваем, вернасць факту. І мы ўдзячныя тым жыхарам нашага рэгіёна, хто на працягу апошняга часу не разлучаўся з "Рэгіянальнай газетай".

Мы радыя вітаць новых чытачоў газеты, тых, хто ў гэты нялёгкі час вырашыў крыху патраціцца, каб падпісацца на выданне, якое расказвае аб падзеях у нашым краі.

У новым годзе рэдакцыя плануе зрабіць газету больш насычанай інфармацыйна, больш прыцягальнай па дызайне. Адродзяцца некаторыя старыя рубрыкі і старонкі – "Стары альбом", "Куфэрак", старонка для жанчын, з"явяцца новыя. Мы з задавальненнем будзем даваць слова простым людзям: экспрэс–апытанні сталі звычайнай з'явай, больш месца адвядзем для вашых лістоў аб радасцях і набалелым. Будзем запрашаць да размоў спецыялістаў: урачоў, юрыстаў, эканамістаў...

Пішыце і тэлефануйце нам, нашыя дзверы адкрытыя для наведвальнікаў. Задавайце нам пытанні любой складанасці, крытыкуйце, злуйцеся на нас і радуйцеся разам з намі. І кожную раніцу ў пятніцу ўспамінайце, што наступіў дзень выхаду "Рэгіянальнай газеты". Газеты, якая, будзем спадзявацца, стане вашай любімай. Ва ўсякім разе, патрэбнай вам.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ,**
**галоўны рэдактар**
**"Рэгіянальнай газеты".**





 



■ НОВЫ ГОД У РЭГІЁНЕ

## Народ Новы Год сустрэў у касцёле

МЯДЗЕЛ. У Будславе сустрэць Новы Год можна было і ў касцёле. У першыя ж секунды 2001 года тут пачалося блаславенне найсвяцейшым сакрамэнтам.

Мясцовы **айцец Славамір** гаворыць, што ў касцёле кіраваліся прынцыпам: калі сустрэў год з богам, з ім ты і будзеш жыць.

Людзей на блаславенні было ладна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Астраўчане далёка пойдуць

АСТРАВЕЦ. Шмат людзей прыйшло ў навагоднюю ноч да ёлкі, усталяванай на цэнтральнай плошчы райцэнтра. Многія заставаліся тут ажно да 6 гадзін, паколькі гучала музыка, а арганізатары добра прадумалі сцэнарый. Астраўчане лічаць, што яны найлепей увайшлі ў новае тысячагоддзе.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

## У новае тысячагоддзе з феерверкам

МЯДЗЕЛ. Пасля стварэння Нацпарку "Нарачанскі" становіцца традыцыяй ладзіць на Новы год у цэнтры к. п. Нарач феерверк. Для жыхароў пасёлка і адпачывальнікаў у святочную ноч былі гулянні, а ў 2 гадзіны ночы – феерверк.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## «Вера і народ»

МІНСК. У Чырвоным Касцёле святых Сымона і Алены адкрылася выстаўка "Вера і народ". Яе аўтар – мядзельскі мастак, сябра творчай суполкі "Пагоня" **Алесь Цыркуноў**. Прадстаўленыя розныя па жанрах работы на хрысціянскую тэматыку. На афішы ёсць выява крыжа, які мастак нядаўна зрабіў для вёскі Чэхі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Горад жыве

**СМАРГОНЬ. 22,1 кв. м агульнай і 14,2 кв. м жылой плошчы прыходзіцца на кожнага жыхара раёна. Для сярэдняга гараджаніна гэтыя лічбы роўныя 19,3 і 11,7 кв. м.**

За апошнія 10 год колькасць жылля павялічылася на Смаргоншчыне на 60% (у горадзе – у 4,6 раза). Для параўнання, у вёсцы на пачатак года пустуе 1599 дамоў. 366 з іх, праўда, гараджане выкарыстоўваюць пад лецішчы.

**Павел МАКЛЮК.**

■ ПРА ШТО ПІСАЛІ 44 ГАДЫ ТАМУ

## За 20 парасят ад кожнай свінаматкі

З выступлення свінаркі Сушы з калгаса імя Варашылава на нарадзе перадавікоў сельскай гаспадаркі раёна.

– На свінаводчай ферме ў калгасе імя Варашылава я працую 7 гадоў. За гэты час набыла вопыт па ўходу за свіннямі.

У гэтым годзе я атрымала па 12 парасят ад кожнай свінаматкі, а ад адной за 2 апаросы – 20. Увесь прыплод захаваны. Абязуюся ў гэтым годзе атрымаць ад кожнай свінаматкі па 20 парасят.

**"Івянецкая праўда", 1956 год.**

## Уносяць наяўнымі

Актыўна праходзіць падпіска на новы Дзяржаўны заём сярод членаў калгаса "Новы шлях". Усе калгаснікі з вялікай радасцю аддаюць свае зберажэнні.

– Я ад усяго сэрца ўхваляю выпуск новага займа, – сказаў калгаснік Феліцыян Юхневіч. – Новы заём будзе садзейнічаць больш магутнаму пад'ёму сельскай гаспадаркі. З радасцю падпісваюся на новы Дзяржаўны заём.

Калгаснікі Антон Рэут, Канстанцін Валента і іншыя унеслі падпісную суму наяўнымі.

**В. Сізоў. "Івянецкая праўда", 1956 год.**

## У шчаслівы шлях, дарагія сябры!

"Прашу раённы камітэт камсамола накіраваць мяне на ўборку ўраджаю на цалінных землях, так як я хачу прыняць удзел у гэтым вялікім патрыятычным руху.

**В. Мангілеў, член ВЛКСМ, Івянец".**
**"Івянецкая праўда", 1956 год.**

## Калгаснікі вучацца

У сельскагаспадарчай арцелі імя Малянкова арганізавана праходзяць заняткі на агратэхнічных курсах, якія вядзе аграном Вера Зубрыцкая. Яна прывівае слухачам цікавасць да авалодання дасягненнямі агратэхнічнай навукі.

Слухачы атрыманыя веды стараюцца прымяняць у практычнай рабоце.

**І. Пажога. "Івянецкая праўда", 1956 год.**

**Падрыхтаваў Мікола КУНАВІЧ.**

■ З НОВЫМ ГОДАМ!

# «Рыф» не стаў перашкодай

**МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні Новага Года вучням і класным кіраўнікам сярэдніх школ горада настойліва прапаноўвалі святкаваць Новы год ў бары "Рыф".**

Маўляў, усё адно пажарныя забароняць у школах збірацца. Адзін толькі ўваход каштаваў тысячу рублёў. У цану білета ўваходзіла праграма з конкурсамі, падарункамі імяніннікам, салодкім столом. Для малодшых жа класаў (з 1 па 4) навагоднія ранішнікі меркавалася правесці ў школах.

Арганізатар СШ №4 **Ірына Зімавіліна** сітуацыю ацэньвала стрымана:

– Па маіх звестках, "Рыф" сам прапанаваў школам правесці навагодні ранішнік для старшакласнікаў з 8 па 11 класы. Пра нейкі "уціск" на школы гаворка не ідзе. У "Рыфе" будуць выступаць прафесійныя музыканты, паабяцалі, што будзе весела. Мне такая ідэя не зусім падабаецца, але для разнастайнасці вольнага часу гэта, напэўна, добра.

Тым часам, знаёмыя з 5–8 класаў заяўлялі, што ідуць святкаваць у "Ронда". А неўзабаве стала вядома, што ёлка не адмяняецца і для старэйшых класаў. Для малодшых класаў свае прадстаўленні меркавала наладзіць "Батлейка".

**Юлія ПРЫВАЛАВА, Вольга КАЛІТНІК.**

**МАЛАДЗЕЧНА. У ноч з 31 снежня на 1 студзеня народ сустрэў новае тысячагоддзе. Але свята пачалі адзначаць задоўга да бою курантаў. Бар "Рыф" старанна запрашаў школьнікаў на свае гулянні, якія пачаліся ўжо з 18 снежня.**

У гімназіі, прыкладам, асабліва цікаўнымі да такога роду адпачынку аказаліся пачатковыя класы. Адміністрацыя запрашальнікам адмовіла. Але гэта не спыніла рыфаўцаў, і яны звярнуліся да настаўнікаў. Вядома ж, з іх боку была поўная згода – менш турбот.

У бары дзяцей сустрэў "Мінскі тэатр клаунады", вясёлая музыка, пачастункі. Словам, пагулялі на славу, толькі некаторыя скардзяцца, што было цеснавата, мабыць, крыху перастараліся запрашальнікі. Наведалі бар і вучні іншых школ горада.

Зразумела, што клапаціліся пра дзяцей незадарма. Навагодні вечар кожнаму абышоўся ў 2000 рублёў. Таму і для "Рыфа" свята адбылося, бацькі крыху растраціліся, але што не зробіш для роднага дзіцяці, асабліва напярэдадні новага тысячагоддзя.

**Вольга КАСЯКОВА.**

■ СЦЕЖКАМІ ГІСТОРЫІ ДАЛЁКАЙ І БЛІЗКАЙ

# Патаемныя падзеі падзямелляў




Схема турыстычнага маршруту.

**Пра нашу зямлю знакаміты даследчык Адам Кіркор сказаў так: "Беларусь – край магіл, курганоў, гарадзішчаў, замкаў, замчышчаў, – край, дзе ледзь не на кожным кроку вы сустрэнеце сляды мінулага ў помніках, паданнях, песнях".**

Шаноўнаму чытачу прапаную турыстычны маршрут, дзе на кожным кроку будзе цікава. Маладзечна – маёнтак Залессе – былое вялікакняжаскае мястэчка Крэва – Барунскі комплекс – Гальшаны – Багданава – Вішнева – Сакаўшчына – Валожын – Палачаны – Аборак – Груздава. Гэта можна праехаць за 10 гадзін.

У былым маёнтку Міхала Клеафаса Агінскага захаваўся палац, які ён жа і ўзвёў у пачатку мінулага стагоддзя. Захаваўся млын, альтанкі, алеі, возера з маляўнічымі астраўкамі і шмат што іншае. А галоўнае – вы пачуеце пра жыццё і дзейнасць дыпламата, дзяржаўнага дзеяча, кампазітара, музыканта і вялікага гуманіста, якім быў Міхал Агінскі.

А далей, каля Смаргоні, кіруемся ў старажытнае Крэва. Як мяняецца лёс нашых паселішчаў! Калісьці Крэва – сталіца Нальшчанскай зямлі, затым Крэўскага княства, вялікакняжаскае мястэчка і цяпер – вёска, вялікая вёска Смаргонскага раёна. Але перш, чым даехаць да Крэва, вы ўбачыце маляўнічыя мясціны паўднёва–ўсходняй часткі Ашмянскага ўзвышша. Горы, прарэзаныя далінамі, прыгожа аздобленыя лесамі і... руіны касцёла. Задуменна стаяць яны, рэшткі былых збудаванняў, ад якіх так прыемна патыхае мінуўшчынай.

А вось і Крэва. Касцёл. Царква. Руіны замка, аднаго з самых магутных замкаў у ланцугу ўзведзеных у цяжкія часы гісторыі нашага народа, калі рабілі свае набегі татары, крыжакі. І не толькі. Сёння ад яго магутных сцен захаваліся рэшткі, але ад гэтага яны не менш цікавыя. Стаяць яны, гэтыя разбураныя сцены і вежы, як помнікі сівой даўніны. Як помнікі, можа, нашай абыякавасці, але ўсё адно, яны, гэтыя замшэлыя і змэнчаныя сцены хаваюць гісторыю і свае таямніцы. Яны і сёння шмат могуць расказаць пра тых беларускіх волатаў, якія звальвалі таўшчэзныя дрэвы, што ляглі ў гэтыя сцены, пра іх талент і вялікую сілу працы. Разбураныя вежы раскажуць нам пра мужных змагароў, што абаранялі нашу зямлю ад захопнікаў. І яшчэ пра патаемныя падзеі, што адбываліся ў іх падзямеллях.

Па дарозе да Гальшанаў мы абавязкова заедзем у Баруны – таксама старажытнае месца. Вы ўбачыце будынак былога кляштара, у якім у пачатку нашага стагоддзя месцілася беларуская настаўніцкая семінарыя. З вамі пагаворыць ксёндз альбо клерк. Вы ўбачыце прыгожы інтэр'ер Барунскага касцёла, званіцу.

А цяпер руцой падаць да Гальшанаў. Толькі па дарозе мы абавязкова зробім прыпынак. За два кіламетры ад Гальшанаў ёсць высокая гара, на якой, згодна з летапісам, калісьці збудавалі сабе замак князі Гальшанскія. Аднак да нашага часу ён (драўляны) не дажыў. Затое засталося гарадзішча, вышыня якога – 82 метры над узроўнем зямлі. Мы абавязкова ўзбярэмся на гэтую крутую гару і падзівімся на Гальшанскае наваколле. А яно вельмі прыгожае. Наўрад ці знойдзеш у Беларусі паселішча, якое мела б столькі помнікаў старажытнасці. Паглядзіце: муры кляштара, касцёл, царква, капліца, замак (таксама ў руінах). Два музеі. Адзін краязнаўчы ў сярэдняй школе, што заснаваў, а цяпер праводзіць экскурсіі былы дырэктар гэтай школы **Эдуард Корзун**, і філіял Нацыянальнага мастацкага музея РБ, які месціцца ў мурах кляштара. У апошнім вы пачуеце легенды і паданні, вам раскажуць пра прывіды, даўнейшыя і сучасныя. Колькі таямнічасці захавалі гэтыя муры! Такая вандроўка будзе цікавая і для вернікаў. Каталікі змогуць пакланіцца цудадзейнай Маці Божай Барунскай, а праваслаўныя ў Гальшанах ушануюць святыя мошчы святой Юліяніі Гальшанскай, якія нядаўна перавезеныя з Кіева–Пячэрскай лаўры ў Гальшанскую царкву Георгія Перамаганосца.

І вядома ж, вы пабудзеце ля разбураных сцен палаца – чорнага замка Гальшанскага, які стаў прататыпам замка, апетага нашым незабыўным Уладзімірам Караткевічам.

А далей па кругу ў Маладзечна, але гэты круг прывядзе нас спачатку ў Багданава – былое ўладанне князёў Сапегаў, а ў больш позні час – маёнтак Рушчыцаў. Мы наведаем маляўнічы пагорак, дзе пахаваныя ўсе Рушчыцы, сярод якіх знакаміты жывапісец Фердынанд Рушчыц, 130 год з дня нараджэння якога нядаўна было адзначана.

Цікавую гісторыю мае і цяперашняя вёска Вішнева, гістарычныя падзеі адбываліся і ля Сакаўшчыны.

Такім чынам шаноўны чытач, робячы вандроўку па гэтым маршруце, адначасова зробіць падарожжа ў нашу багатую і цікавую гісторыю – далёкую і блізкую.

**Любоў КАРПОВІЧ.**

■ ДНІ

**5 студзеня – Дзень работніка сацыяльнай абароны**

**60 год з дня нараджэння У. Яркова** (1941–1991), дыктара беларускага радыё і тэлебачання.

**7 студзеня – Нараджэнне Хрыстова па каляндары праваслаўнай канфесіі**

**Дзень банкаўскага работніка**

**100 год з дня нараджэння І. Раеўскага** (1901–1972), рэжысёра, педагога.

**8 студзеня** – у 1391 горад **Гродна (Гароднія) атрымаў няпоўнае Магдэбургскае права**

**9 студзеня – 200 год з дня нараджэння В. Кавалеўскага** (1801–1878), вучонага–лінгвіста, заснавальніка манголазнаўства.

**90 год з дня нараджэння У. Вафіядзі** (1911–1986), беларускага фізіка, члена–карэспандэнта АН Беларусі.

## Купляння з музыкай

МЯДЗЕЛ. Пасля рэканструкцыі ўрачыста адкрыўся галоўны магазін райцэнтра – "Гастраном". Унутраная аддзелка зробленая не горш, як у сталіцы: сучасныя матэрыялы, такое ж абсталяванне. Каштавала гэта каля 30 мільёнаў рублёў. З нагоды адкрыцця два аддзелы магазіна атрымалі ў падарунак па магнітафоне. Цяпер пакупнікі і прадаўцы робяць сваю справу з музыкай.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, студзень**

5–7 **"Ю–571"** (Падводная лодка), ЗША, баявік, прэм'ера 16–00, 18–00, 20–00

6, 7 **"Краіна малпаў"**, Францыя–Індыя, прыгоды, прэм'ера 14–00

9–14 **"Зайздрасць багоў"**, Расія, меладрама (фільм фестываля "Лістапад–2000) 16–30, 19–00

**"Павукі"**, ЗША, фільм–катастрофа, да 16 год 21–30

### Для дзяцей

**Студзень**

5 – **Навагоднія прыгоды Машы і Віці** 10–00, 12–00, 14–00

6 – **"Роні, дачка разбойніка"** 11–00

7– **"Кожны паляўнічы жадае ведаць"** 11–00

 

■ РЭКЛАМА

# Калі ў дарозе будуць нягоды – «Бролли» на дапамогу прыйдзе заўсёды

**У папярэднім нумары мы пачалі гаворку пра страхаванне аўтамабіляў. Сёння – заканчэнне публікацыі.**

Гэты агульнапрыняты на Захадзе від страхавання называецца тэхнічны асістанс. У Беларусі раней наогул не існавала іншага выйсця, акрамя як заўсёды мець з сабой буйную суму грошай на непрадбачаныя выдаткі. Нядаўна тэхнічны асістанс з'явіўся і ў нас у рэспубліцы.

**— Якую дапамогу забяспечвае табе гэтая страхоўка, калі адбываецца страхавы выпадак?**

— Страхавая кампанія арганізуе і аплаціць эвакуацыю пашкоджанага аўтамабіля да станцыі тэхнічнага абслугоўвання ці месца жыхарства, пры неабходнасці, яго захоўванне на платнай стаянцы, экспертную і прававую дапамогу ўладальніку, а самае галоўнае – рамонт аўтамабіля, пашкоджанага ў кантактным ДТЗ, на суму да 3000 долараў. Усё гэта менш за 40 долараў у год і ў любым месцы Беларусі. Яшчэ пра адну важную асаблівасць раскажу ў канцы.

**— З тваіх слоў, тэхнічны асістанс — сапраўды, карысная страхоўка па даступнай цане, калі ўзнікае праблема рамонту сваёй машыны пасля кантактнага ДТЗ. Што ты выйграеш, маючы ў кішэні гэты поліс, у параўнанні з абавязковым страхаваннем?**

— Па–першае, гэта розныя віды. Яны не замяняюць адзін аднаго. Калі адбылося ДТЗ, то ў аўтаўладальніка, які трапіў у яго, узнікае дзве праблемы. Адна з іх – адрамантаваць свой аўтамабіль. Яна ўзнікае заўсёды. Другая – кампенсаваць урон, нанесены іншым асобам. Яна ўзнікае толькі ў тым выпадку, калі аўтаўладальнік аказаўся вінаватым у ДТЗ.

Абавязковае страхаванне грамадзянскай адказнасці – так званая "грамадзянка" – выручае застрахаванага, калі ён павінен разлічыцца за ўрон, нанесены іншаму аўтамабілю. Калі ты вінаваты, то па "грамадзянцы" выплачваць кампенсацыю табе ніхто не будзе.

Па–другое, тэхнічны асістанс выручае не толькі пры рамонце. Бо вадзіцеля падсцерагаюць і іншыя непрыемнасці ў дарозе. Напрыклад, сутыкненне адбылося далёка ад горада. Машыну ж на дарозе не кінеш, а за эвакуацыю трэба заплаціць на месцы. А калі з сабой няма патрэбнай сумы? Або ўяві: ноччу на пустой дарозе адбываецца тэхнічная паломка. Машына не можа ехаць. Маляверагодна, што хтосьці спыніцца дапамагчы. Гэта здараецца і з самымі прадбачлівымі вадзіцелямі. У гэтым няма іх віны, таму што прадугледзець усю небяспеку ў дарозе немагчыма. Як быць?

Калі ты загадзя набыў поліс на тэхнічны асістанс, то не трэба сутаргова шукаць "жывыя" грошы на эвакуацыю і рамонт. Ты ўжо не залежыш ад сітуацыі, і дапамога прыходзіць абавязкова, незалежна ад таго, хто вінаваты ў здарэнні. У гэтым прынцыповае адрозненне асістансу ад "грамадзянкі".

Нарэшце, тыя, хто на практыцы атрымліваў кампенсацыю па абавязковым страхаванні, ведаюць, колькі часу гэта займае. Працэдура гэтая складаная і працяглая, нават калі пашкоджанне самае нязначнае, таму што патрабуецца вялікая колькасць дакументаў. Пацярпеламу даводзіцца атрымліваць страхавую кампенсацыю не ў той кампаніі, у якой застрахаваўся ён сам, а ў страхавой кампаніі вінаватага. Да таго ж, выплата па "грамадзянцы" робіцца з улікам зносу аўтамабіля. Усё гэта, зразумела, не паскарае тэрмін атрымання і не павялічвае памер кампенсацыі.

Доўга абыходзіцца без "колаў" мне ніяк не падыходзіць. Вось чаму для мяне вельмі важна, каб рамонт пасля ДТЗ быў зроблены хутка. Гэта магчыма пры наяўнасці поліса па тэхнічным асістансе.

Працэдура спрашчаецца: не трэба траціць час і нервы на тое, каб атрымаць грошы на рамонт ад кампаніі вінаватага. Я ведаю, хто канкрэтна будзе мне дапамагаць, – тая ж кампанія, поліс якой заўсёды ляжыць у маёй кішэні. Кампанія сама арганізоўвае і поўнасцю аплачвае рамонт, прычым, прыступае да яго арганізацыі неадкладна, адразу па звароце.

Якая ёсць альтэрнатыва асістансу? Ці можна яго параўнаць з традыцыйным аўта–каска, па якім застрахаваны таксама атрымлівае кампенсацыю ад сваёй кампаніі, незалежна ад таго, хто вінаваты?

Каска карысны, калі, напрыклад, ноччу пабілі ў машыне шкло ці яе ўгналі нагул. Ён выручае пры перакульванні, падзенні прадметаў, вандалізме, пажары, выбуху, стыхійных бедствах. Але з–за ўліку ўсёй гэтай рызыкі, поліс аўта–каска каштуе параўнальна дорага. Ён не пашкодзіць, калі ёсць свабодныя грошы. У мяне сітуацыя іншая: машына знаходзіцца або ў гаражы, або на ахоўваемай стаянцы. Страхавацца ад угону няма асаблівай неабходнасці.

**— Сярод усіх страхавых кампаній ты выбраў менавіта "Бролли". Чаму?**

— Дапамога на дарозе дорага каштуе. Яе немагчыма галаслоўна абяцаць – трэба рэальна мець па ўсёй Беларусі сетку аварыйных камісараў, сетку контрагентаў з эвакуатарамі, сетку дыспетчарскіх пунктаў і сетку СТА, здольных аказаць любую патрэбную дапамогу аўтамабілісту, які трапіў у бяду. Усё гэта ў "Бролли" ёсць!

Адрасы і тэлефоны гэтых СТА ўказаныя ў полісе, можна прыехаць на іх і паглядзець, якое там стаіць абсталяванне і як яны працуюць.

Там жа можна не толькі даведацца пра падрабязнасці, але і набыць поліс.

Дарэчы, калі уважліва паглядзець на поліс, то побач з лагатыпам "Бролли" з яго знакамітым парасонам можна ўбачыць і другі лагатып – сусветна вядомай кампаніі "Корыс". "Корыс" спецыялізуецца на арганізацыі дапамогі (у тым ліку, і тэхнічнай) кліентам 276 страхавых кампаній па ўсім свеце і ўваходзіць у пяцёрку сусветных лідэраў. З ёй "Бролли" супрацоўнічае ўжо 5 год, – гэта партнёры, праверАныя часам.

Нарэшце, я адчуваю, што за мной сапраўды стаіць цэлая кампанія, калі замест двухмесячнага чакання пашкоджаны аўтамабіль без лішняй цяганіны дастаўляецца на СТА. Ад праблем пошуку даведак і станцыі тэхабслугоўвання я пазбаўлены. Дастаткова прад'явіць толькі даведку аб ДТЗ, якую органы ДАІ выдаюць на месцы здарэння. Усе гэтыя перавагі дае сваім кліентам толькі "Бролли".

Якія фактары даюць упэўненасць, што на гэтых СТА рэальна забяспечаны самы якасны сервіс?

Перш за ўсё, я ўпэўнены ў "Бролли". Гэта для мяне галоўнае, таму што ўжо на вопыце атрымаў пацвярджэнне ў надзейнасці гарантый гэтай кампаніі.

Чаму менавіта гэтыя СТА трапілі ў спіс? Справа ў тым, што калі замежны аўтамабіліст–уладальнік поліса на тэхнічны асістанс, вандруючы па Беларусі, трапляе ў ДТЗ, то яго аўтамабіль дастаўляецца менавіта на адну з гэтых СТА. Пры гэтым патрабуецца сервіс на замежным узроўні. Каб іншаземец атрымаў яго, трэба выбраць па ўсёй рэспубліцы толькі тыя станцыі, якія рэальна здольныя яго забяспечыць. Прыемна, што кампанія паклапацілася пра сваіх кліентаў і выбрала лепшых.

Далей, калі прыехаць на любую з гэтых СТА, скажам, прайсці тэхабслугоўванне, то поліс "Бролли" гарантуе скідку 10% і абслугоўванне ў першую чаргу. У першую чаргу перад тым, у каго няма поліса.

І, нарэшце, тая асаблівасць, пра якую абяцаў расказаць. Мой поліс – на ўнутраны асістанс. Усё, пра што ішла гаворка вышэй, тычыцца яго. Акрамя яго, у кампаніі "Бролли" можна таксама набыць поліс і на знешні асістанс. Ён таксама прадугледжвае дапамогу на дарозе, якая будзе аказаная па ўсёй Заходняй Еўропе, Прыбалтыцы і Украіне, але пералік паслуг адрозніваецца. Уладальнік поліса знешняга страхавання, чый аўтамабіль атрымаў за мяжой пашкоджанні ў ДТЗ або тэхнічнай аварыі, атрымлівае не толькі буксіроўку аўтамабіля да СТА ці стаянкі, але і рамонт на месцы тэхнічнай аварыі з дастаўкай запасных частак. Паездка за граніцу не будзе азмрочаная начоўкай у салоне. Калі рамонт зацягваецца на 2–3 дні, то пражыванне вадзіцеля ў гасцініцы можна будзе аплаціць за кошт страхоўкі. Калі аўтамабіль разбіты і не можа рухацца самастойна, то аплата праезду вадзіцеля да месца прызначэння або жыхарства – таксама за кошт страхоўкі. Нарэшце, самае галоўнае – гэта экспертная і юрыдычная дапамога. Куды звяртацца за дапамогай у незнаёмай краіне? Як правільна дзейнічаць па законах гэтай краіны, калі адбылося здарэнне? Як абараніць свае інтарэсы? Каб атрымаць неабходную дапамогу за мяжой, трэба толькі звярнуцца ў любое прадстаўніцтва кампаніі "Корыс", указанае ў полісе, – і вам дапамогуць.

У залежнасці ад працяглсці і рэгулярнасці паездак, поліс можна купіць і на больш доўгі тэрмін, аж да года.

У цэлым, гэтая прапанова ўнікальная для Беларусі: аўтаўладальнік можа, у залежнасці ад неабходнасці, выбраць менавіта той варыянт тэхнічнага асістансу, які яму патрэбны.

Я шмат паездзіў, шмат бачыў экстрэмальных сітуацый і для сябе выснову зрабіў. Без поліса ты выжываеш на дарозе, з полісам – атрымліваеш задавальненне.

Генеральны агент ЗСАТ «Бролли»: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 1а. Тэл. 77603.

**Віталь БЯРЭЗІН.**



**Уладальнік гэтага аўтамабіля не скарыстаў своечасова тэхнічны асістанс.**

Фота з архіва «РГ».

## Курсы валют НБ РБ

| | 28 снежня | 4 студзеня |
|---|---|---|
| Долар | 1180,00 руб. | 1180,00 руб. |
| Нямецкая марка | 562,93 руб. | 560,58 руб. |
| Літ | 295,13 руб. | 295,07 руб. |
| Расійскі рубель | 41,97 руб. | 41,97 руб. |
| Злоты | 284,00 руб. | 284,68 руб. |
| ЕЎРА | 1101,00 руб. | 1096,40 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1230 – 1250 руб. | 1230 – 1270 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 27.12 | 03.01 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1700 | 1700 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6805 | 6313 |
| Сасіскі, 1 кг | 1850 | 1850 |
| Селядзец, 1 кг | 1100 | 1100 |
| Рыс, 1 кг | 410 | 430 |
| Грэчка, 1 кг | 480 | 480 |
| Цукар, 1 кг | 565 | 558 |
| Алей, 1 л | 670 | 670 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 650 | 650 |
| Маянэз, 200 г | 220 | 240 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1200 | 1200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 400 | 400 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 360 | 360 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 180 | 200 |
| Капуста, 1 кг | 100 | 80 |
| Хурма, 1 кг | 850 | 800 |

**Сялянскія прадукты**

| Прадукты | 27.12 | 03.01 |
|---|---|---|
| Смятана, 1 л | 800 | 800 |
| Масла, 1 кг | 1800 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 800 | 900 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 1000 |
| Морква, 1 кг | 200 | 200 |
| Яблыкі, 1 кг | 350 | 370 |



■ КУПІ–ПРАДАЙ

## Куплю «Зінгер»

**ВІЛЕЙКА. За апошнія колькі месяцаў неаднойчы давялося сустракаць аб'яву: "Куплю старую швейную машыну "Зінгер". Кошт такой машыны, як па сакрэце паведаміў адзін мясцовы "антыквар", вагаецца ад 1000 да 7000 нямецкіх марак. Хто ж адмовіцца ад такіх грошай? Вось і ідзе за гэтымі амаль залатымі машынкамі сапраўднае паляванне: іх скупляюць, завяшчаюць у спадчыну і нават крадуць.**

Вось як можна тлумачыць такія фантастычныя цэны: некаторыя дэталі машынкі зробленыя з плаціны; у рэвалюцыю буржуі, каб схаваць сваё багацце ад бальшавікоў, адлівалі станіны гэтых машын з золата і фарбавалі ў чорнае – пад чыгун; быццам бы, у нумарах "Зінгераў" зашыфраваныя рахункі швейцарскіх банкаў, на якіх ляжаць мільёны; у Германіі праходзіць падзел спадчыны фірмы "Зінгер", і той, хто мае больш швейных машынак, стане наследнікам.

Ёсць нават інструкцыя, як з дапамогай магніта вызначыць сапраўднасць швейнай машыны "Зінгер" (вытворчасці Германіі), бо ёсць падробкі "пад фірму" польскай вытворчасці.

На маю думку, усё гэта падобна на трызненне сівой кабылы (як некалі гісторыя з чырвонай ртуццю, якой не "гандляваў" толькі лянівы). Лічу, ёсць толькі адно разумнае тлумачэнне, навошта спатрэбіліся "Зінгеры" і чаму яны дорага каштуюць. Фірма "Зінгер" (цяпер манаполія ЗША) пачала выпуск сваёй прадукцыі ў 1863 годзе. А гэта сапраўдны антыкварыят, які заўсёды цэніцца на Захадзе.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

# Аб‘ект–700

**“Звышсакрэтны “Аб‘ект–700”, ён жа ДЦП №616 ДПЦ/МА СССР для…, ён жа прыклад для выжывання беларусаў**

## Начны дэсант... днём

Выдатнік выпуску Вышэйшага ваенна–марскога вучылішча сувязі Юрый Ільін выбраў месца службы, як яму дыктавала сумленне. Вядома ж,ката ў мяшку – “звышсакрэтны аб‘ект”. І гэта ўсё, што яму паведамілі.

...Самалёт, уздрыгваючы, прабіў воблачнасць і зашумеў па бетоннай паласе.

– Да трапа пададуць таксі, – пажартаваў хтосьці, – чакайце.

Яны ўскочылі ў стальную скрынку “гэтэзскі” (гусенічнага транспартнага сродка – аўт.), і панесліся па снежных траншэях пасёлка.

– Мы былі ў цёплым адзенні, – успамінае той “дэсант” цяперашні віляйчанін Юрый Ільін. – Але на вуліцы мне здалося, быццам я зусім голы.

Вецер валіў з ног, здавалася, вырываў вочы, не даваў дыхаць. Скавытаў, быццам хтосьці сабраў сюды сотні тысяч галодных ваўкоў. І гэтае выццё ветру стане пастаянным “музычным суправаджэннем” яго далейшай службы.

## «Звышсакрэтны горад»

Цяпер можна назваць яго па імені: Белушыная Губа, што на поўдні вострава Новая Зямля. Тут лейтэнант Ільін і пачаў служыць у вайсковай часці дзяжурным па сувязі. А ў канцы жніўня параходам прыбыла і жонка, для якой знайшлася праца па спецыяльнасці ў ваенным шпіталі. Атрымалі кватэру (асобную!) у доме на дзве сям‘і.

Дом – драўляны зруб, заглыблены ў зямлю па вокны. У цэнтры – печка–пліта, заўсёды чырвоная, як спелы памідор. Ацяплялася каменным вугалем. А ў трох метрах ад яе замярзала вада: пад падлогай – вечная мерзлата. “Вадаправодам” служыла машына–вадавозка. Раніцой на стук матроса адчынялі вузенькую фортку, праз якую прасоўваўся шланг, – і пітная вада напаўняла бочку на 2 сям‘і. Для мыцця бялізны – снег, бяры і растапляй.

Што тычыцца адзення, то ўсё спецыяльна шылася з футра на ваце. Апраналі тоўстыя штаны і куртку, якая каўнерам закрывала твар аж да вачэй. Зверху шапка да броваў закрывала лоб. Валёнкі, тоўстыя рукавіцы. У рукі бралі шчыток, у якім было акенца з арганічнага шкла. І ў дарогу, каб не адчуваць сябе голым на дварэ.

На вахце хадзілі ў агульнай звязцы, камандзір наперадзе. Уздоўж вуліцы былі збудаваныя ў рост чалавека з дошак скрыні, па дне якіх ляжалі трубы ацяплення і водаправодныя. На цеплаізаляцыю труб былі пакладзеныя дошкі – тратуар. Па іх – драўляных калідорах – і хадзілі: на вахту, у магазін, у школу, у шпіталь, дом культуры. А там, дзе не было такой засцярогі, нацягваўся сталёвы трос, за яго трымаліся, калі ў дарозе нечакана застане пурга. Тут адлегласць у некалькі сот метраў лічылася вялікай.

## Рукатворнае пекла на зямлі

Звышсакрэтны “Аб‘ект–700” – гэта быў атамны палігон ВМФ Саюза. Размяшчаўся ён у ста кіламетрах на поўнач ад Белушынай Губы. Там выраблялі атамныя і вадародныя бомбы.

Тыдні два вялася вялікая падрыхтоўчая работа. На пэўных адлегласцях ад эпіцэнтра ў якасці падвопытных трусоў размяшчаліся састарэлыя караблі розных класаў, а на сушы – разнастайная баявая тэхніка. Нават будаваліся дамы, бамбасховішчы, склады з харчаваннем і шмат іншага. Навязвалі жывёлу. Абсталёўваліся шматлікія пункты назірання, куды падвозілася сувязь. Затым пазначаўся дзень шаленства рукатворнай стыхіі. Да гэтай даты са шпіталя выпісвалі каго толькі можна – на выпадак неспадзяваных ахвяраў.

І вось ужо восенню 1959 года нашы новазямельскія навасёлы былі сведкамі тых жудасных вакханалій вогненных смерчаў.

Спачатку ў бок палігона праляцелі самалёты. Затым яркая ўспышка – агромністы шар другога сонца, які паступова робіцца малінавым і пачынае падымацца ўверх нешырокай паласой. На вышыні пертвараецца ў вялізнае грыбападобнае кучаравае воблака, якое затым пацямнее і паўзе ў паўночным напрамку. Даляціць аглушальны стрэл, затым раскацісты гул магутнага грому, які доўга паўтарае горнае рэха.

Ім давялося за 5 год службы падрыхтаваць і перажыць 64 выбухі. У тым ліку – 20 вадародных, адзін з якіх – звышмагутны, у 57 мегатон. Пасля апошняга Мікіта Хрушчоў фанабэрыста пагражаў:

– Мы ім (капіталістам) пакажам “кузькину мать”!

Была падрыхтаваная для выпрабаванняў і 100–мегатонная бомбішча! Але самалёты не паспелі б адляцець на бяспечную адлегласць, каб не расплавіцца ад цеплавой энергіі выбуху. І тая, 57–мегатонная, моцна аплавіла самалёты. Таму тую “бомбішчу” не выпрабоўвалі. “Бухалі” меншымі: у паветры, на вадзе, пад вадой...

## Як яны выжылі? (для беларусаў)

Па–першае, іх забяспечвалі паўнацэнным харчаваннем, бо моцны арганізм лепш супрацьстаіць хваробам і разбуральным сілам радыяцыі. Выдаваўся ім бясплатна асноўны паёк, які на чалавека ў месяц складаў 2,9 кілаграма масла, 6 кілаграмаў мяса, 3 кілаграмы рыбы, 16 кілаграмаў бульбы, агародніны (капусты, буракоў, агуркоў, морквы, цыбулі і г. д.) – колькі з‘ясі. Выдавалася мука, крупы, цукар, спецыі. Дадатковы паёк складаўся з 1,5 кілаграма кілбасы, 1 кілаграма сыру, 1 кілаграма печыва. У магазінах ваенторга можна было танна купіць апельсіны, лімоны, яблыкі, часнок, яйкі. Хлеб выдаваўся штодзённа па патрэбнасці і малако для дзяцей. Не хапала толькі малочных прадуктаў для дарослых і зеляніны. Ды і кіслароду ў паветры бракавала на 15%.

Па–другое, яны добрасумленна выконвалі правілы асабістай гігіены. Перад кожным домам стаяла паўбочка з вадой, ля якой абавязкова шваброй мылі абутак ад пылу, сярод якога мог быць і радыеактыўны попел. У памяшканні хадзілі ў дамашнім адзенні і абутку, якія не мелі кантактаў з брудам радыяцыі на дварэ. Абавязкова змывалі пыл з рук, ног і твара, паласкалі рот. Перш, чым варыць страву, змывалі бруд з тых прадуктаў, якія кантактавалі з зямлёй: з бульбы, буракоў, морквы, грыбоў. Прадукты харчавання старанна прамывалі праточнай вадой, варылі ў вадзе, якую затым злівалі: з ёй выльюцца і радыеактыўныя рэчывы. А затым ужо даварвалі ў новай вадзе.

Такім чынам, галоўнае правіла выжывання для беларусаў – мець моцны арганізм з дапамогай паўнацэннага харчавання. Гэта азначае, харчавацца, як яны. Толькі норма на чалавека ў месяц у нас можа быць меншая, паколькі тут не такія суровыя ўмовы (зімні холад, колькасць кіслароду). І выконваць правілы асабістай гігіены, каб не трапіў радыеактыўны бруд унутр арганізма з ежай і з пылам пры дыханні.

А калі, усё ж, разбуральны бруд трапіў?

Тады дзейнічае наступнае правіла: вывесці радыенукліды з арганізма. Заўважце: новазямельцам давалі шмат бялковай ежы (мяса, рыба), агародніны – колькі з‘ясі. Гэта таму, што бялок звязвае радыенукліды і выводзіць з арганізма. А клятчатка гародніны – гэта найлепшая прыродная “швабра”, якая “вымятае” радыенукліды з арганізма.

– Найлепшыя прыродныя ачышчальнікі арганізма, – гаворыць жонка Вольга, – гэта льняное семя ды сырая гародніна. Патрэбна я. найбольш ужываць салатаў. Есці ягады, садавіну.



Фота з сямейнага альбома.

**На Новай Зямлі. Медык Вольга Ільіна за работай.**

## Гульні са смерцю

Магчыма, не ўсе пераканаліся ў моцнай небяспецы іх службы. Тады прывяду толькі тры доказы небяспекі: ім плацілі двайныя аклады, залічвалі за год службы два, давалі 45 сутак адпачынку (без дарогі) абавязкова летам. А пра бясплатныя пайкі, спецадзенне і шмат іншага яшчэ не забыліся? А такімі выгодамі за здорава жывеш у Саюзе не раскідваліся.

Ездзілі Ільіны на адпачынак не ў санаторыі, а дадому. Бацькі іхнія былі вопытнейшыя пчаляры. І вось у 1963 годзе прачытаў Юрый у часопісе “Пчеловодство” артыкул амерыканскага радыебіёлага, які ўвёў групе белых мышэй пчаліны яд. Затым апрамяніў іх дозамі ў 300 рэнтген, смяротнымі для чалавека. 80% мышэй гэтай групы выжылі. У той самы час такая ж доза загубіла ўсіх мышэй кантрольнай групы, якім пчаліны яд не ўводзіўся.

Вось і яшчэ адзін, відаць, надзейны сродак, які не даў маім знаёмым страціць здароўе. Яны штогод 45 сутак даглядалі пчол, атрымліваючы ад іх за гэта лячэбныя ўкусы.

Калі Юрый Ільін адслужыў на “Аб‘екце–700” два тэрміны, ён зноў атрымаў права на выбар месца службы. І ён прыехаў у Вілейку на ваенны аб‘ект ВМФ, які тады, у 1963 годзе, уступаў у строй. І працягвае займацца пчалярствам – гэтым аздараўляльным заняткам.

– Відаць, таму ў студзені гэтага года на курсах павышэння кваліфікацыі па радыялогіі мой арганізм пры абследаванні аказаўся самы “чысты”, – гаворыць на развітанне цяперашні інжынер–радыёлаг Вілейскага лясгаса, які 14 год таму атрымаў і чарнобыльскі попел разам з намі.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ,**
**Вілейка.**

■ **РАСКАЗВАЮЦЬ**

# Трактар на ўзлёце

**ВІЛЕЙКА. Самы сапраўдны дырыжабль быў на ўзбраенні ў вайсковай часці каля вёскі Шылавічы (так званыя вышкі: самая высокая з іх 285 метраў, а ўсяго іх 18; прызначэнне – антэны).**

Раней, за Саюзам, калі электрычнасць каштавала капейкі, ноччу вышкі ззялі прыгожымі чырвонымі агеньчыкамі, бы навагоднія ёлкі. Нават было відаць іх з суседніх раёнаў. На выпадак, калі антэны не змогуць працаваць, і быў у часці аэрастат, каб падняць антэну–кабель. Маракі празвалі яго “дырыжбомбелем”.

Ці нешта было не прадумана, ці вецер каля Вілейкі моцны, але час ад часу тросы, якімі аэрастат мацаваўся да наземнай пляцоўкі, лопаліся, і ён рушыў у свабоднае плаванне. Аднойчы адзін з такіх аэрастатаў адарваўся і амаль даляцеў да Польшчы, дзе яго і знішчылі беларускія МИГі. Каб не ўтварыўся міжнародны інцыдэнт. Пасля гэтага выпадку на аэрастаты пачалі чапляць невялікія радыёміны, каб у выпадку чаго “дырыжбомбель” можна было знішчыць у паветры.

Аднойчы аэрастат адарваўся ў чарговы раз, і паплыў у бок Шылавічаў. Трос, што цягнуўся за ім, зачапіў трактар, на якім трактарыст араў поле. Мужык не зразумеў, чаму гэта трактар раптам пачаў скакаць, як шалёны. Агледзеўся – няма нікога, ніяк нячысцікі жартуюць.

Тут трактар пачаў і ў паветра падымацца. Трактарыст выскачыў з кабіны і толькі тут убачыў трос, які губляўся недзе ў хмарах. Трактар яшчэ колькі разоў падскочыў, трос адчапіўся і знік удалечыні.

Спісаныя аэрастаты (іх рабілі з трывалага непрамакальнага матэрыялу) маракі мянялі на шыла (“ядзерную” спіртавую сумесь) у прапорцы 1 кг – 1 л. З такога матэрыялу шылі чахлы для машын і нават гандолы для катамаранаў (якія бараздзілі абсягі Белага мора).

І цяпер у СШ №1 – яна падшэфная вайсковай часці – на святах можна ўбачыць, як дзіцячыя шарыкі падымаюцца ў паветра, таму што іх надзьмулі геліем, што прызначаўся ў свой час для аэрастатаў.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

■ **КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА**

# Трагедыя Навагодняй ночы

**ВІЛЕЙКА. У першую ноч новага тысячагоддзя пяцёра 17–гадовых віляйчан вырашылі пакатацца на машыне аднаго з бацькоў. Паколькі былі юнакі нападпітку, то з кіраваннем не справіліся, і на адной з цэнтральных вуліц горада – 17 верасня – машына ўрэзалася ў дрэва.**

1 студзеня ў 13–00 у бальніцы памер адзін, у 18–00 – другі. Тры астатнія ўсё яшчэ знаходзяцца ў рэанімацыі, прычым адзін у цяжкім стане.

Наогул жа, па раёне ў навагоднюю ноч было 7 нябожчыкаў. Усе ў той ці іншай ступені загінулі з–за празмернага ўжывання алкаголю (некалькі чалавек – з прычыны атручвання, што паказала ўскрыццё).

**Аддзел інфармацыі “РГ”.**

# Дзед Мароз застаўся жывы

**СМАРГОНЬ. Некалькі дзён па краіне гуляла інфармацыя, нібы ў Смаргоні зарэзалі Дзеда Мароза. Рэчаіснасць аказалася больш празаічная: сын забіў бацьку (раней судзімага), які напярэдадні віншаваў суседзяў у касцюме Дзеда Мароза.**

18–гадовы сын, які толькі што вярнуўся з месцаў пазбаўлення волі, пасварыўся з бацькам (рабочы мясцовага РДК ужо адпачываў пасля навагодняй ночы). У прыхожай два разы ўдарыў яго нажом у грудную клетку. Палічыў, што раны бяспечныя (!) і пайшоў. Нябожчыка праз гадзіну знайшла жонка.

**Аддзел інфармацыі “РГ”.**

■ **МЕРКАВАННЕ**

# Адбітак грамадства

**ВІЛЕЙКА. Усё больш і больш здзіўляешся людской бязлітаснасці. Пасля вайны людзі былі больш уважлівыя і добразычлівыя адзін да аднаго. Маглі падзяліцца апошнім кавалкам, я гэта цудоўна памятаю, хаця і была маленькая. Што тычыцца дзяцей, то мы не маглі нават падумаць, каб засмуціць бацьку, маці, настаўніка, любога дарослага чалавека, і дзеці былі першымі памочнікамі бацькоў.**

10 снежня, калі вярталася з магазіна, убачыла, як падлетак 12–13 год некалькі разоў падымаў камень і кідаў яго ў плот. Падышла бліжэй. Аказваецца, пад плотам ляжаў маленькі чорненькі сабачка. Пры ўдары ён нават не павіскваў, а толькі ўздрыгваў. Знясілены, хаваў галаву між лап. І вось апошнім кідком ён трапіў у галаву сабачку, той здрыгануўся, глыбока ўздыхнуў, выцягнуўся – і жыццё яго спынілася.

Спыніць падлетка я не змагла, не хапіла ў мяне сіл. На пытанне, навошта ён гэта зрабіў, хлопец адказаў, што сабачка бяздомны і ўсё адно здох бы.

Вось і падрастае яшчэ адзін патэнцыяльны злачынца. І падставу гэтаму даем мы – дарослыя. Спачатку людзям патрэбная была забава і яны вырасцілі сабачку, але потым у гаспадароў не хапіла грошай на ўкол, каб усыпіць яго, і яны выкінулі жывёліну на галоднае бадзянне.

І як часта мы бачым на базары, аўтобусных прыпынках, вакзалах кінутых сабак. Адзін пхне яго нагой, іншы дасць кавалачак хлеба. І як вынік жорсткасці дарослых – дзіцячая жорсткасць.

**Раіса МАІСЕЕВА.**



# Паварушы мазгамі, №38

З новым годам, шаноўныя. Няхай трэцяе тысячагоддзе будзе вамі пражытае ў сто разоў шчаслівей, чым папярэдняе!

Правільна рашылі задачку з мінулага задання маладзечнацы **Вольга Абушная, Дзмітрый Дуровіч, Юрый Жыганаў, Аляксандр Кальчынскі, Андрэй Каўзовіч, Андрэй Кушнір, Аляксандр Малевіч, Уладзімір Машко, Вольга Муклановіч, Дзмітрый Пакладок, Артур Пісаронак, Каця Северына, Аляксандр Сільвановіч, Леван Сласцён, Вольга Страх, Андрэй Стрэж, Ігар Талецкі, Ганна Шыцік, Юрый Юхневіч, Сташэўская Алена**, віляйчане **Дзмітрый Лубнеўскі, Ганна Шупенька**, а таксама **Сяргей Смалонскі** з Радашковічаў і **Андрэй Буслаўскі** з Ракаўцаў на Смаргоншчыне. Дарэчы, аднафамілец і цёзка Адрэя Буслаўскага маладзечанец **Андрэй Буслаўскі** прапанаваў даволі складаную задачу, якая, магчыма, будзе надрукаваная ў нашай газеце. Дзякуй. А прыз сёння дастаўся **Аляксандру Малевічу**. Так распарадзілася нашая латарэя. Алесь, заходзьце ў рэдакцыю па прыз і ганаровы дыплом. Віншую вас!

У мінулы раз трэ было падзяліць квадрат на 11 частак чатырма прамымі лініямі з такім разлікам, каб у кожнай частцы было па адным кругляшы. Вось што атрымліваецца:



## Расстаў лікі

У кружочках фігуры расстаў лікі ад 1 да 14 так, каб сумы іх на ўсіх сямі адрэзках прамых былі б роўныя.



**Напішы адказы на паштоўцы** і адпраў на адрас рэдакцыі. Падпішыся на паштоўцы. Сярод тых, хто знойдзе правільнае рашэнне галаваломкам, будзе разыграны прыз. Шчасліўчыку ўручым таксама дыплом. Не сярдуй, калі правільна адкажаш на заданне, а не знойдзеш прозвішча сярод прэтэндэнтаў на прыз. Проста ты даслаў рашэнне не на паштоўцы.

**Варушыць з вамі мазгамі Якім ПЯРЭЧКА.**

## Дошка гонару



Фота Аляксандра Манцэвіча.

**Прадпрымальнік Леван Сласцён з Маладзечна стаў пераможцам у мінулым туры нашага конкурсу.**

## ■ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.



**Па гарызанталях: 5.** Маёмасць, якую даюць бацькі маладой, калі яна выходзіць замуж. **6.** У мусульман: лёгкае жаночае пакрывала на ўвесь рост. **10.** Адтуліна з падвешаным мяшэчкам на краі борта більярднага стала, у якую падае шар. **11.** Невялікая лугавая птушка са скрыпучым, прарэзлівым крыкам; дзяркач. **12.** Момант пачатку спартыўных спаборніцтваў. **13.** Салодкі спіртны напітак з фруктовых і ягадных сокаў, настой траў. **15.** Драпежная птушка з моцнай дзюбай і доўгімі вострымі крыламі. **16.** Сельскагаспадарчая машына для касьбы травы. **19.** Лірычны верш з 14 радкоў. **20.** Прамы ўдар самалёта, танка, карабля, які робіць прабоіну. **21.** У дакласавым грамадстве: абагатвораная жывёліна, што лічыцца родапачынальнікам племені. **23.** Вынік складання дзвюх або некалькіх велічынь. **25.** Упакоўка, у якой захоўваюцца тавары, грузы (мяшкі, бочкі, скрынкі). **26.** Задняя частка судна, лодкі. **27.** Пакаёвая перагародка з рам–створак, абцягнутых тканінай, паперай.

**Па вертыкалях: 1.** Цестападобнае бясформеннае рэчыва, густая сумесь. **2.** Умацаваны на мачце вялікі кавалак тканіны, які надзімаецца ветрам і прыводзіць у рух судна. **3.** Паста, соус з памідораў. **4.** Атмасферныя ападкі ў выглядзе невялікіх ледзяных шарыкаў. **7.** Травяністая расліна сямейства бабовых, якая высяваецца для ўгнаення глебы і на корм жывёлы. **8.** Сумеснае аўтарства. **9.** Прамысловая рыба сямейства карпавых з буйной луской. **14.** Сорт каштоўнай паўднёвай яблыні. **15.** Стральба і феерверк з прычыны ўрачыстай даты, падзеі. **17.** Сухі, гарачы вецер пустынь, што налятае шквалам і ўтварае пясчаныя буры. **18.** Кляймо на скуры сельскагаспадарчых жывёлін, як распазнавальны знак. **21.** Месца зняволення, будынак, дзе ўтрымліваюцца асобы, пазбаўленыя волі. **22.** Урач, а таксама студэнт вышэйшай медыцынскай навучальнай установы. **24.** Цвёрды, са слаямі рознай афарбоўкі мінерал, які выкарыстоўваецца для ўпрыгожванняў. **25.** Прадмет, асноўны змест разважання, выкладу думкі, творчасці.

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №52

**Па гарызанталях:** 2. Лат. 5. Карабел. 6. Сарказм. 9. Кок. 13. Сад. 14. Рабства. 15. Па. 16. Ля. 18. Ура. 20. Страус. 22. Хатынь. 25. Слава. 27. Апала. 30. Даход. 31. Сталіца. 32. Акравак. 34. Лес. 35. Напад. 36. Аса. 37. Ток. 38. Латок. 39. Скала. **Па вертыкалях:** 1. Касатка. 3. Капар. 4. Пемза. 7. До. 8. Ра. 10. Крама. 11. Абрус. 12. Страх. 13. Салат. 17. Стол. 19. Анёл. 21. Улада. 23. Асада. 24. Мухаедка. 25. Слайд. 26. Асіна. 28. Аброк. 29. Абвал. 31. Суп. 33. Кот.

## Гараскоп 8 – 14 студзеня



**Авен**
(21.03–20.04)

12 студзеня прынясе супрацьстаянне ў асабістым жыцці і прафесійнай кар'еры, будзе цяжка ўтрымаць раўнавагу на абодвух сектарах існавання. 13–14–га актывізуецца інтэлект, і вы зможаце разабрацца з усімі складанымі пытаннямі, "прыцягнутымі" яшчэ з мінулага стагоддзя.



**Цялец**
(21.04–21.05)

Абставіны будуць спрыяць зносінам з важнымі людзьмі. Іх скіраванасць на супрацоўніцтва і нават на фінансавую дапамогу вельмі нядрэнна падтрымае ваш бізнес у пачатку года. 13–га студзеня чакайце вестак і паведамленняў, звязаных з прызнаннем вашых заслуг.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

Поўня 9–га студзеня прынясе вам магчымасці, якія тычацца новых спосабаў атрымання грошай. Перыяд спрыяе таксама для авалодвання незнаёмымі відамі дзейнасці. Вы можаце павысіць свой прафесійны статус, калі не вельмі будзеце аддавацца забавам.



**Рак**
(22.06–23.07)

Працягваюцца кіданні з боку ў бок, душэўны спакой яшчэ не блізкі. Магчымае абвастрэнне адносінаў з навакольнымі 12–га студзеня. Не шукайце простых рашэнняў. Вам трэба займацца сваім здароўем, таму што стомленасць перашкаджае справам.



**Леў**
(24.07–23.08)

Вам неабходна больш інтэнсіўна клапаціцца аб прафілактыцы захворванняў, паколькі іх лячэнне адбірае шмат часу і грошай. Калі можаце, максімальна адыдзіце ад спраў ці нават вазьміце адпачынак.



**Дзева**
(24.08–23.09)

9–12–га студзеня вы будзеце лёгка знаходзіць агульную мову з тымі, хто вам дарагі. А вось 13–14 больш падыходзяць для разважанняў у адзіноце, таму што ў гэтыя дні вы можаце разбурыць тое, чаго дамагліся ў папярэднія.



**Шалі**
(24.09–23.10)

Да вас могуць прад'явіць вялікія прэтэнзіі як блізкія (быццам вы недастаткова ўважлівыя да іх), так і крэдыторы, з якімі вы не паспелі разлічыцца да Новага года. Дарэчы, такая сітуацыя не вельмі дрэнная – абставіны падштурхнуць вас да пошуку правільных рашэнняў.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Перыяд, поўны сюрпрызаў і падарункаў лёсу. Вы можаце заўважыць, што на вашу долю выпадае больш шанцаў, чым вы можаце выкарыстаць. Падзяліцеся імі з блізкімі. 12–га студзеня паставіць перад вамі шэраг прафесійных праблем, рашэнне якіх можа ўзмацніць аўтарытэт.



**Стралец**
(23.11–21.12)

9–12–га студзеня – дні поўнага душэўнага камфорту, якія чымсьці нагадваюць радасныя перажыванні дзяцінства. Будзьце на прыродзе, хадзіце на лыжныя прагулкі, сустракайцеся з сябрамі. Гэтыя дні мала падыходзяць для работы. А вось 13–14–га трэба будзе вырашаць фінансавыя праблемы.



**Казярог**
(22.12–20.01)

Да 12–га студзеня вясёлыя і прыемныя стасункі будуць стабільна чаргавацца з высвятленнем партнёрскіх адносінаў. Магчыма, ваш любоўны раман паставіць пытанне пра далейшае існаванне шлюбу. Пасля 13–га вы будзеце лёгка рашаць любыя эканамічныя галаваломкі.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

9–12–га студзеня паспяхова вырашацца многія фінансавыя пытанні. Але стан здароўя можа ў значнай ступені тармазіць гэты працэс. Магчымае сур'ёзнае захапленне кімсьці са старых знаёмых. Могуць вярнуцца пачуцці, і вы не зможаце ім супрацьстаяць.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Гэты перыяд паставіць шэраг пытанняў, што тычацца развіцця асабістых стасункаў і далейшага супрацоўніцтва з цяперашнімі калегамі. Магчыма, ужо 12–га студзеня вы захочаце многае змяніць. Не прыспешвайце падзеі, спытайцеся сябе яшчэ раз, што вам патрэбна.



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ».
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж **7600 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
**№1 (298) 5.01.2001**. Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №.
Падпісана ў друк у 13.00 4.01.2001

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** гасцініца "Вілія", капіравальны цэнтр "Парус". **Тэл. 55194, 55284.**
**Смаргонь:** Рэдакцыя "Новай газеты Смаргоні", вул. Танкістаў, 8. **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у аддзяленні Белнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя «РГ»